Цана нумэру 50 кап.

# БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА

ШТОДЗЕННАЯ ГАЗЭТА.

Рэдакцыя і Адміністрацыя — Востра-Брамская, № 9 — адчынена што дня, апрача сьвята, 10—3 гадз.

АБВЕСТКІ: 1 радок перад тэкстам 4 рублі. 1 радок за тэкстам 2 рублі. 3 безработных за усю абвестку 2 рублі.

Год I. Вільня, Серада, 2 ліпня 1919 г. № 34.

## Трэба склікаць Раду Рэспублікі.

Беларускі рух знайходзіцца цяпер у такім палажэньні, што самы мудры з беларускіх Саламонаў, якіх мы маем ня мала, ня можа ўзяць на сябе адказнасьці за той ці іншы крок, каторы жыцьцё ад нас вымагае.

Наша бацькаўшчына, як усім вядома, знайходзіцца ў вельмі цяжкім палажэньні. Народ наш ня мае голасу, каторы зычна гаманіў-бы аб родных справах. Большасьць Беларусі знайходзіцца пад бальшавіцкім уціскам, меньшасьць — занята палякамі. Мы—народ, нікому не абвяшчаўшы вайны і жадаючы на ўсімі жыць ў згодзе, а нашу бацькаўшчыну, ня гледзячы на тое, што вайна скончана, а таксама і што мы хочам супакою і волі, душаць і нішчаць не па нашай віне.

Так далей жыць ня можна. Даволі чакаць і цярпець! Мы хочам самі паклапаціцца аб сабе, бо чужынцы аб нас клапаціцца ня стануць. Гэта нам досьць ведама ад усялякіх акупантаў, хто-б яны ні былі.

Усе народы бышай Расейскай Імпэрыі вядуць свае справы самі, маюць свае ўрады, свае войска, каторае бароніць іх незалежнасць і вядзе барацьбу з бальшавікамі і іншымі сваімі ворагамі. Толькі мы, беларусы, такія нешчасьлівыя, што ня можам бараніць сваймі сіламі сваю мілую і родную бацькаўшчыну.

Так далей быць ня можа!

Мы павінны згуртавацца і рашыць, што нам рабіць? Пакуль што мы ня можам склікаць Устаноўчы Сойм. Але мы павінны дайсьці да яго. Мы павінны зрабіць ўсё магчымае, каб наш народ мог прысылаць у наш Сойм сваіх аблюбованых людзей і каб яны сказалі свае апошняе слова аб самых сабе, чаго хоча народ.

Хто-ж будзе весьці гэтую вялікую і адказную працу?

Другога адказу быць ня можа, як толькі: *працу гэтую павінна весьці «Рада Беларускай Народнай Рэспублікі»*, якая працавала ў Менску, *супольна з Беларускай Радай Віленшчыны і Горадзеншчыны*, выбранай на зьезде 9—11 чэрвеня.

Гэтыя два прадстаўніцтвы беларускага народу павінны зьліцца ў вадно, бо яны разам прадстаўляюць усю Беларусь: Горадзеншчыну, Віленшчыну, Меншчыну, Магілеўшчыну, Віцебшчыну і Смаленшчыну. Да згуканьня Беларускага Устаноўчага Сойму Рада Беларускай Народнай Рэспублікі явіцца адзіным правамоцным выказчыкам волі беларускага народу. Яна адна толькі можа быць прызнана намі самымі, нашымі суседзямі і Эўропай, як часовае прадстаўніцтва беларускага народу і наагул усіх іншых пражываючых на Беларусі народаў. Яна адна толькі можа мець аўторытэт і права гаварыць ад імя народу з суседзямі і з ўсім сьветам.

Надходзіць крытычны мамэнт, калі ў Расеі можа запанаваць новы рэжым. Што будзе з нашай бацькаўшчынай, калі Дмоўскі і Сазоноў, адзін — з боку Польшчы, другі—з боку Расеі, згаворацца паміж сабой па пытаньню аб граніцах паміж Польшчай і Расеяй і раздзяруць Беларусь на два кавалкі?

Калі мы будзем і далей чагосьці чакаць і маўчаць, мы згубім правы беларускага народу на самаазначэньне, і Сазонавы і Дмоўскія з гэтага добра скарыстаюць. Ім толькі і трэба, каб мы «спалі ў шапку», каб за сьпінаю падрыхтаваць падзел Беларусі на Польскую і Расейскую часьці.

Тое, што робіцца беларускім урадам за граніцай, дзеля абароны нашай незалежнасьці, вельмі добра, але-ж гэтага мала. Нашы міністры ня могуць чуць за сабой той сілы, каторую дасьць ім толькі Рада Рэспублікі. Нашы міністры ня могуць усё бачыць і знаць і, вядома, ня могуць рабіць крокі, паўнамоцтва на каторыя можа даць толькі Рада Рэспублікі.

Так пачнём-жа, браты, як мацней гукаць, каб зьбіралася наша Рада Рэспублікі, каб зьежджаліся ў адно места ўсе сябры Рады і пачалі сваю слаўную працу для абароны незалежнасьці нашай бацькаўшчыны.

Рада Віленшчыны і Горадзеншчыны павінна як найхутчэй абгаварыць гэтае пытаньне і зрабіць перад польскай ўладай крокі па скліканьню Рады Рэспублікі.

Нам здаецца, што польская ўлада ня стане пярэчыць скліканьню Рады Рэспублікі, бо Начальнік Польскага гасударства п. Язэп Пілсудзкі, калі яму прадстаўлялася ў Вільні беларуская дэлегацыя (25 сакавіка), згадзіўся на гэтую прапазіцыю.

Як бы ні было, а склікаць Раду, ці ў Вільні, ці гдзе ў другім месьце, трэба як можна скарэй. Чакаць далей – значыць ісьці за Дмоўскім і Сазонавым.

Скольці-б ні сабралася сяброў Рады Рэспублікі, ці мала ці многа, усё роўна: трэба зьбірацца і весьці адказную працу.

Гарро.



## Беларусь.

**Беларускае паўстаньне у Дзісьненшчыне і Віцебшчыне, беларуская зялёная армія, бітвы з бальшавікамі, уцекачы у Вільні. Палякі шкодзяць барацьбе з бальшавікамі, не даючы магчымасьці арганізаваць беларускае войска.**

Перад намі дэлегацыя паўстаўшых беларускіх сялян з Дзісьненскага павету. Дэлегацыя, у складзе каторай ёсьць паміж іншым два праваслаўныя сьвяшчэньнікі, расказвае нязвычайныя рэчы.

Бальшавіцкія парадкі і бальшавіцкая гаспадарка ўсім вельмі дадзелі. Цяпер-жа бальшавікі, ня спадзяючыся доўга прадзяржацца, зьдзекаюцца і нішчаць усё. Дайшло да таго, што ў некаторых мясцах бальшавікі косяць збожжа ў полі і загараваюць бульбу. Гэта ўсё для таго, каб яно не дасталося непрыяцелю. Насяленьне гэтым вельмі стрывожана. Разам з гэтым расьце голад, ад каторага церпіць навет чырвоная армія.

Тымчасам бальшавіцкая ўлада абвесьціла мобілізацыю ад 16 да 43 гадоў. Заместа ісьці ў чырвоную армію сяляне пачалі хавацца па лясох і разам з дэзэрты-

рамі з чырвонай арміі арганізаваць беларускую зялёную армію.

16-га чэрвеня ўзьнялося паўстаньне у Пагосьце і Іказьні. Разьбіты бальшавіцкія саветы (рады), арыштованы камісары і ў панядзелак 17 чэрвеня арыштованы ўсе камуністы. Пачалася праўдзівая вайна проці бальшавікоў, катория хутка перакідаваецца ў іншыя воласьці Дзісьненскага пав. і навет у Віцебскую губ. Аб паўстаньне камуністы наказалі ў Дзісну паветаваму камісару. Паветавы камісар прыехаў, але быў арыштаваны і забіты. Тады камуністы, што яшчэ ўцалелі, наказалі ў Дьзвінск. Адтуль прыбыў каральны атрад латышоў і заняў Пагост. Паўстанцы адышлі ў Шаркаўшчыну, дзе і рассыпаліся, адны перайшлі на гэты бок фронту, а другія хаваюцца па лясох.

Справа стаіць зусім ясна, беларусы ўсюды паўстаюць проці бальшавікоў і трэба было-б толькі даць магчымасьць арганізацыі беларускага войска, каб бальшавікі былі выгнаты з Беларусі. Тымчасам гэтага няма, палякі, ад якіх найбалей залежыць у нас цяпер фармаваньне беларускага войска, працівяцца гэтаму, або ставяць такія варункі, на каторыя ніводзін сьвядомы беларус ня пойдзе. Паляком дзела няма да мукаў беларускага народу, ім патрэбна імпэрыялістычная вайна і палянізацыя дзеля прылучэньня да Польшчы, і войска, каторае-б ня было іх сьляпым аружжам у палянізацыі, яны ня хочуць.

Гэткім парадкам робіцца вялізная шкода ў барацьбе проці бальшавікоў, шкода, каторую цяжка будзе потым паправіць.

Антанта, каторая заінтэрэсавана ў барацьбе проці бальшавікоў, павінна зьвярнуць увагу на гэтую імпэрыялістычную, эгоістычную, нягодную польскую палітыку.

# У ВІЛЬНІ.

### Аб гандлю рыбай.

Бурмістр м. Вільні загадаў, каб гандлявалі рыбай толькі на рыбным або на драўляным рынку. Прадаваць рыбу на інш. рынках, на мястовых пляцах або вуліцах забаронена. Тыя, хто не паслухае гэтага загаду, будуць пакараны, а іхні тавар будзе сканфіскаваны.

### Соль і серпікі.

Генеральны камісарыят паведаміў Магістрат м. Вільні, што з Ліды выслана для Вільні 13 вагонаў солі і 1 вагон сярнічкаў.

### Віленскіх дзяцей павязуць у Варшаву.

Дзеля таго, што няма чым карміць дзяцей у віленскіх ахронах і прытулках, Магістрат стараўся, каб частку віленскіх дзяцей выслаць у Варшаву.

Главная Рада Апякунчая ў Варшаве займецца вывазам тысячы дзяцей з Вільні.

Есьць праэкт наладзіць у Прушкове (каля Варшавы) вялізарны прытулак, у якім дзеці знойдуць памяшчэньне, утрыманьне, апеку і навуку. Кошт устройства у новым месцы бярэ на сябе Генэральны Камісарыят, а кошт утрыманьня дзяцей да будучага лета—Міністэрства Працы і Грамадзкае Апекі.

# АПОШНІЯ НАВІНЫ.

### Мір падпісаны.

ВЕНА. 28 чэрвеня. З Вэрсалю пішуць, што мірны трактат быў падпісан ў Вэрсалі у 3 гадзіны па поўдню.

### Абвяшчэньне бурмістра Вэрсалю.

ЛІОН, 28 чэрвеня. Бурмістр Вэрсалю загадаў разьляпіць ніжэйсьледуючую адозву:

«Вялікі дзень Вэрсалю надыйшоў. Мір падпісаны ў Люстэрнай Галярэі ў суботу, 28 чэрвеня 1919 г.». (П.А.Т.)

### Цэрэмонія падпісаньня трактату.

ВЕНА, 28 чэрвеня. В. Кор. паведамляе з Нью-Іорку. Карэспандэнты Нью-Іорскіх газэт тэлеграфуюць: Вільсон прыехаў у 2 г. 50 м. да Люстэрнай Залі. Клемансо адчыніў пасяджэньне у 3 г. 7 м. прамовай; ён казаў 2 мінуты. У 3 г. 14 м. падпісалі немцы, пасля яго ангельскія дэлегаты. У 3 г. 23 м. падпісаў Клемансо. У часе падпісаньня ангельскай дэлегацыяй Смутс падаў ліст з пратэстам проціў пакараньня імпэратара Вільгельма і проціў іншых пастаноў трактату.

У 3 г. 50 м. падпісаньне было скончана і дэлегаты выйшлі з Залі.

Кітайскія дэлегаты у поўдзень зрабілі заяву, што трактату не падпішуць. Прычыну гэтага яны абвесьцяць у вечары.

### Польская дэлегацыя на канфэрэнцыі.

ВАРШАВА, 29 чэрвеня. Польская дэлегацыя на чале з прэзыдэнтам Падарэўскім 15 чэрвеня даручыла прэзыдэнту канфэрэнцыі Клемансо мэмор'ял аб справах народнай і рэлігійнай меншасьці у Польшчы. У мэмар'яле сваім польская дэлегацыя катэгарычна пратэстуе проціў агранічэньня сувэрэнных праў Польшчы, кажучы, што нарадовыя традыцыі будуць найбольшай гарантыяй роўнасьці праў жыхараў пры роўнасьці абавязкаў. У канцы мэмор'ялу польская дэлегацыя кажа, што ўсе жаданьні мірнай канфэрэнцыі яна у гэтым сэнсі зложыць Устаноўчаму Сойму для лэцызіі, бо гэта адна кампэтэнтная інстытуцыя, якая можа сказаць цьвёрдае слова.

(П. А. Т.).

### Немцы пакідаюць Сувалшчыну.

Кар. „Kur. Polski" з Райгораду даносіць што эвакуацыя немцаў з Сувалшчыны ідзець у сьпешным тэмпе.

### Канфэрэнцыя па справах меншасьці.

ВЕНА, 29 чэрвеня. Венскае Карэспандэнцыйнае Бюро даносіць з ст. St. Germain: „Petit Journal" піша: Разам з мірным трактатам будзе падпісана канвэнцыя паміж хаўрусьнымі дзяржавамі і Польшчай; яна мае 2 аддзелы і 16 артыкулаў аб правох народавай і рэлігійнай меншасьці ў Польшчы. Цераз некалькі дзён гэтыя артыкулы будуць абвешчаны.

(П. А. Т.).

### Юдэніч вядзе Пауночную армію.

БЭРЛІН. Водле вестак францускіх газэт ген. Юдэніч назначан Антантай галоўным камандуючым усіх войск, якія ідуць на Петраград. У хуткім часе ён выдасьць адозву да быўшых афіцэраў расейскай арміі з прызывам да бойкі проціў бальшавікоў, каб выратаваць дзяржаву расейскую.

(Л. Б. П.)

### Кітайскія справы.

ПЭКІН, 19 чэрвеня. Адстаўка прэзыдэнта міністраў прынята. Пакуль што яго месца заняў міністр фінансаў. Ува ўсім Кітаю незадаваленьне проціў японцаў. (Л. Б. П.).

### Экс-кайзэр будзе падсудны.

ГАМБУРГ, 20 чэрвеня. «Echo de Paris» падае, што не пазней за 1 ліпня у Галяндыю будзе выслана станоўчае жаданьне, каб кайзэр Вільгельм быў аддаты пад суд. Галяндыя будзе прынята ў сувязь народаў. Вільгэльм II, як палонны Антанты, будзе выслан у Парыж і пасоджан у турму, дзе будзе сядзець, пакуль Антанта ня зьменіць свой загад аб ім. (Л. Б. П.)

## Пісьмо у рэдакцыю.

Міласьлівы Гаспадар,
Пане Рэдактар!

Катэгарычна пратэстую проці спосаба крытыкаваньня літэратурных твораў, з якога карыстае нейкі дабрадзей Я., гаворачы у № 33 «Беларускай Думкі» аб маёй рэчы «Іду усе—іду я» у № 2 «Беларускага жыцьця».

Калі дабрадзей Я. меўся выкладаць навуку аб шкоднасьці «хныканьня» і аб патрэбе цьвёрдасьці у наш адказны час, дык мог-ба ён зрабіць гэта у тоне элементарнай ветласьці журналіста да чалавека, думку ці настрой каторага ён ня можа ці ня хоча зразумець.

Пратэстую, Міласьлівы Пане Гаспадару, проці таго, што Вы надрукавалі «рэцэнзію» у выглядзе, каторы яна мае.

Ад літэратурнага супрацоўніцтва у «Беларускай Думцы» не адмаўляюся пасьля такой прыгоды толькі дзеля таго, што ахвярую сваім „я" ва імя сьвятога ўсім нам адраджэньня.

*Максім Гарэцкі.*

1 ліпня 1919 г.
Вільня.

Рэдакцыя лічыць, што аўтар рэцэнзіі, пішучы яе, меў на ўвазе таксама *толькі* карысьць сьвятога ўсім нам адраджэньня. *Рэдакцыя.*